

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№10(523) 14 студзеня 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Вместе с самолетами

**Возможно, и цены на авиабилеты еще раз взлетят в ближайшее время.**

Ушедший 1992 год Белорусское управление гражданской авиации закончило с убытками в сумме около 2 миллиардов рублей. Это в большой степени и послужило толчком к предновогоднему повышению "пролета" на самолетах Белорусского управления по всем его 13 основным маршрутам. "Одна тонна авиакеросина, — комментирует первый заместитель начальника управления О.В.Крижиков, — на сегодняшний день стоит 60—70 тысяч рублей. Отсюда и цены на авиабилеты: Минск—Ташкент, например, — 9,5 тысячи рублей, Минск—Москва — 4 тысячи. И перспективы пока не радостны...

Анатолий РОМАНОВИЧ, РИД.

### И пусть финансы поют романсы

**Приятный подарок преподнесли новополоцкие депутаты землякам, чьи таланты официально удостоверены.**

Сессия местного Совета освободила от платы за площадь, используемую под мастерские, всех членов творческих союзов. Если примеру молодого города последует вся область, то казне придется отказаться от взносов за подобные помещения одного композитора, 70 художников, такого же количества театральных деятелей и полсотни архитекторов.

Сергей ДВИНСКИЙ.

### Не хлебом единым

**Несвойственными раньше для себя делами стали зарабатывать на жизнь витебские пекари.**

Ночная рубашка — отнюдь не единственное "непрофильное" изделие областного объединения хлебопродуктов. Кормящее ведомство занялось также плетением корзин, выращиванием кормовых культур, а заодно — и свиней. Создание подсобных промыслов помогло повысить зарплату и, похоже, содействовало прекращению забастовок и прочих акций недовольства в коллективах объединения.

Сергей СЕРГЕЕВ.

### Семинар, на котором можно узнать все. О налогах

**19 января в Минске пройдет семинар "Новое в налогообложении в Республике Беларусь".**

На нем выступят ведущие специалисты Совмина и Главной государственной налоговой инспекции. Организатор семинара — Союз предпринимателей — обеспечит участников справочными материалами, законодательными актами, инструкциями, действующими сейчас в республике.

Телефоны для справок: 27-11-09, 27-18-83, 23-13-65.

Антон ЧЕКОВ.

### ...А будут еще и ягодки!

**Радиолог — такая новая должность появилась в штатном расписании колхоза "Коммунар" Речицкого района.**

Ее занял Владимир Холод, прошедший специальную подготовку в Минске. В созданной радиологической лаборатории отныне будет проверяться продукция с личных подворий сельчан. Летом у радиолога забот прибавится. Ему необходимо будет проверять на содержание радионуклидов собранные в лесах грибы и ягоды.

Сельский радиологический центр в "Коммунаре" — один из двухсот, действующих теперь на Гомельщине.

Анатолий ЛИПСКИЙ.

### Вкратце

**Со вчерашнего дня в Беларуси начал действовать проект "Руководители школ следующего столетия", спонсором которого является известный американский бизнесмен и политический деятель Джордж Сорос.**

В нынешнем году в республике предполагается подготовить 90 молодых руководителей школ и других структур системы образования.

***

**Президент США Джордж Буш, "рассерженный вызывающим поведением иракского лидера Саддама Хусейна", принял решение нанести воздушный удар по Ираку, сообщила вчера газета "Нью-Йорк таймс".**

200 американских боевых самолетов, дислоцированных в Саудовской Аравии, Турции и на борту авианосца "Китти хок", уже готовы нанести удар. Цели — исключительно военные.

***

**Иракцы в очередной раз проникли на принадлежавшую им ранее военно-морскую базу в кувейтской части демилитаризованной зоны с целью вывоза оттуда имущества.**

Это уже четвертое проникновение в кувейтский сектор за последние четыре дня.

***

**Сопредседатель российского парламентского комитета по средствам массовой информации Вячеслав Брагин назначен распоряжением Б.Ельцина председателем телерадиокомпании "Останкино".**

***

**Бомбей истекает кровью — так сегодня характеризуется крайне напряженная обстановка, сложившаяся в этом городе.**

Только за последние дни в результате столкновений на религиозно-общинной почве там погибли 206 человек. Власти вводят в Бомбей и его пригороды все новые армейские подразделения и отборные части коммандос, но им пока не удается взять ситуацию под контроль.

***

**Коалиция 14 политических партий Никарагуа, которая привела к власти нынешнего президента республики Виолету Барриос де Чаморро, объявила о своем "официальном переходе в оппозицию".**

***

**80-летний Эрих Хонеккер освобожден из заключения.**

В 14-й палате Берлинского земельного суда вчера принято решение об отмене ордера на арест и прекращении дела в связи с тяжелым состоянием здоровья бывшего руководителя ГДР.

***

**Выборы первого президента независимой Словацкой Республики будут проведены на сессии парламента, которую председатель Национального совета СР Иван Гашпарович наметил на 26 января.**

Если главу государства не удастся избрать в первом туре голосования, следующий тур будет проведен 27 января.

(ИТАР-ТАСС, БелаПАН, "Народная газета".)

### Если аура прохудилась

**Сеансы душевной стабилизации готовы предложить пожилым брестчанам братья и сестры филиала "Всемирного университета Радж-йоги "Брахма-кумарис".**

Духовный госпиталь, который предложит любому ветерану эту бесплатную услугу, начинает работу при городском территориальном центре обслуживания пенсионеров.

Виктор ВАСИЛЬЕВ.

### Доллар растет по неделям

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 515 | 528 |
| Германская марка | 317 | 326 |
| Английский фунт | 744 | 774 |
| Французский франк | 89 | 93 |
| Финская марка | 93 | 97 |



### Свинская болезнь, но страдают и люди

**15 человек, жителей поселка Лесное Столбцовского района, уложил на больничную койку один дикий кабан.**

Еще два месяца назад в охотничий сезон местный любитель пулевой стрельбы мастерским выстрелом пришиб в окрестном лесу дикое животное. Но справиться о его здоровье у ветеринара поленился. Кабанчик же, по данным Минской облСЭС, оказался больным трихинеллезом, а эту заразу не берет даже термообработка, и все, кого радушный хозяин за это время угощал свежинкой, заболели. Они будут жить. Но безалаберным охотникам на будущее скажу, что от трихинеллеза можно и помереть. Через 5—42 дня после подобной трапезы начинают болеть мышцы, потом, если не вмешаются врачи, трихинеллы примутся за сердце, легкие и головной мозг ...

Юрий НОЯРОВИЧ.

### "Идиот" — это звучит гордо!

**Юбилейный, десятый, год своего существования "распечатал" витебский самодеятельный литературно-публицистический журнал "Идиот".**

Первый номер, вышедший из обычной пишущей машинки, имел тираж всего 5 экземпляров. Последний, 23-й выпуск, набранный компьютерным способом, смогли получить в качестве подарка 10 человек. Редактор, бывший преподаватель медицинского института, а ныне предприниматель, Вячеслав Новиков и другие "самиздатовцы" собираются зарегистрировать журнал.

Немало чудаков, в разное время "пригретых" редчайшим изданием, выросло в профессиональных писателей и журналистов. Они гордятся до сих пор своей дружбой с "Идиотом"!

Сергей БУТКЕВИЧ.

*З першых вуснаў*

## У кожнага — свой шлях

"У ходзе візіту беларускай дэлегацыі ў Кітай мы пераканаліся, што пры аднолькавых мэтах — павышэнні дабрабыту людзей, павелічэнні вытворчасці валавога нацыянальнага прадукту — нашы шляхі могуць быць рознымі. Нельга нічога механічна пераймаць, не адапціруючы зарубежны вопыт у прымяненні да нашых канкрэтных умоў", — заявіў 13 студзеня на прэс-канферэнцыі, прысвечанай вынікам знаходжання парламенцкай дэлегацыі ў КНР, Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч. У той жа час ён падкрэсліў, што шматгадовую практыку кітайскіх рэформ будзе карысна вывучыць беларускаму боку. Удасканалення патрабуе як нацыянальнае заканадаўства, так і ўся праграма дзеянняў. У першую чаргу гэта датычыць рэгуліроўкі тых законаў, якія ствараюць умовы для абагачэння тых, хто не выраблае тавары, а нажывае капіталы на куплі-продажы. У сувязі з гэтым узнікае неабходнасць перайсці на больш "тонкую" настройку падатковага механізму, на стварэнне больш гібкай сістэмы для ўкладання інвестыцый.

Станіслаў Шушкевіч паведаміў, што сустрэчы на вышэйшым узроўні паказалі — у абедзвюх дзяржаў ёсць агульныя палітычныя і эканамічныя інтарэсы. У прыватнасці, для Беларусі, аб'явіўшай сябе нейтральнай і без'ядзернай дзяржавай, блізкая пазіцыя КНР, якая абвясціла 5 прынцыпаў мірнага суіснавання дзяржаў і выступае за ўсеагульнае ядзернае раззбраенне. Нашы краіны таксама вельмі зацікаўлены ў паглыбленні эканамічнага супрацоўніцтва. Кітайскі бок прыцягвае, у прыватнасці, высокі ўзровень беларускай радыёэлектронікі і машынабудавання, а наш — кітайскія вырабы лёгкай прамысловасці, якія славяцца ва ўсім свеце.

Галоўным вынікам візіту, паведаміў кіраўнік парламента, акрамя прыняцця сумеснай кітайска-беларускай заявы стала падпісанне шэрага дакументаў і пагадненняў, якія датычаць абароны інвестыцый, супрацоўніцтва ў прававой сферы, бязвізавых службовых і турыстычных паездак і г.д. У іх адзначаецца, што эканамічнае супрацоўніцтва і гандаль з'яўляюцца важнейшай часткай узаемаадносін дзвюх дзяржаў, прадугледжаны меры для стварэння адна адной рэжыму найбольшага спрыяння і расшырэння ўзаемавыгадных сувязей.

Ларыса ЛАЗАР, Белінфарм.

*Нам стала вядома*

### Беражыся, мафіёзі!

**Завяршыўся візіт у Беларусь дэлегацыі міністэрства ўнутраных спраў Італіі.**

Яго вынікам стала падпісанае тут пагадненне аб абмене камп'ютэрнай інфармацыяй паміж дзвюма краінамі аб незаконных перавозках наркатычных і псіхатропных рэчываў. Італьянскі бок узяў на сябе абавязацельства забяспечыць поўнае тэхнічнае садзейнічанне беларускім праваахоўным органам у падключэнні да адзінай камп'ютэрнай сеткі. Гэта дасць магчымасць італьянскай паліцыі своечасова атрымліваць звесткі аб транзітных перавозках наркотыкаў праз тэрыторыю Беларусі і ўзаемадзейнічаць з беларускімі калегамі ў спыненні гэтых злачынных акцый. У не меншай ступені ў гэтым зацікаўлены і беларускі бок, які ў хуткім часе зможа атрымліваць інфармацыйную дапамогу ад сваіх замежных калег.

Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ, Белінфарм.

*Увага!*

### Акрэдытацыя пачалася

Прэс-службы Рабочай групы СНД і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь паведамляюць кіраўнікам сродкаў масавай інфармацыі, што для акрэдытацыі журналістаў на сустрэчу кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў СНД, якая адбудзецца 22 студзеня 1993 года ў Мінску, а таксама на сустрэчы міністраў замежных спраў (20 студзеня 1993 года) і міністраў абароны дзяржаў Садружнасці (22 студзеня 1993 года) пісьмовыя заяўкі прымаюцца да 19 студзеня г.г. Заяўкі, якія паступілі раней, калі яны не патрабуюць удакладненняў, сапраўдныя.

Белінфарм.

*Ходзяць чуткі...*

## Выбуху на ЧАЭС не будзе. Ёсць, нарэшце, праект будаўніцтва новага саркафага

***Чаму маўчыце пра крытычнае становішча на чацвёртым энергаблоку ЧАЭС? Калі грымне чарговы выбух, будзе ўжо позна! Скажыце людзям праўду...***

Вольга КУРГАНОВІЧ.

*г.Мінск.*

Вакол Чарнобыльскай атамнай станцыі ўзнялася чарговая хваля чутак. Пішуць і звоняць у рэдакцыю адусюль, нават з блізкага замежжа. Адны патрабуюць неадкладна паведаміць праўду пра тое, што здарылася, другія "ведаюць" усе падрабязнасці, трэція ўжо называюць вінаватых...

Наш аглядальнік звярнуўся за тлумачэннямі да старшыні Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы Аляксандра Зуева і старшыні Нацыянальнай камісіі па радыяцыйнай абароне, рэктара Міжнароднага вышэйшага каледжа па радыеэкалогіі імя Сахарава Аляксандра Люцко.

Старшыня Дзяржкаматамнагляду спачатку звязаўся са сваім калегам з Украіны Мікалаем Штэйнбергам, каб зверыць апошнюю інфармацыю, а потым даў кароткае інтэрв'ю:

— Як мяркуюць спецыялісты, небяспекі выбуху не існуе. Але... Накрыўка рэактара, якая зрушана з месца пасля катастрофы, пад цяжарам уласнай вагі можа ўпасці, падняўшы воблака радыеактыўнага пылу. Калі гэта здарыцца, то радыус уздзеяння складзе не больш як 10 кіламетраў. Робіцца ўсё магчымае для герметызацыі энергаблока, прадпрымаюцца іншыя меры.

Урэшце пасля працяглага конкурснага адбору прыняты французскі праект кансервацыі рэактара. Але яшчэ невядома, як хутка ўдасца надзець "смирительную рубашку", дзе ўзяць мільярды рублёў на будаўніцтва.

— Зроблены на хуткую руку саркафаг — гэта часовае збудаванне, разлічанае не больш чым на 20 гадоў, — расказаў Аляксандр Люцко. — Так што часу засталося няшмат... Цяпер абстаноўка вакол атамнай станцыі ў норме. Выбуху, аб якім ходзяць чуткі, не павінна быць.

Іншая справа, калі ўпадзе накрыўка рэактара... Праз шчыліны ў саркафагу (каля тысячы квадратных метраў) вылеціць радыеактыўны пыл. Зона яго распаўсюджання не перавысіць 10 кіламетраў — займе прамплацоўку, крыху тэрыторыі за калючым дротам. Але, мяркую, што справа да гэтага не дойдзе.

Цяпер палітыкам трох пацярпеўшых ад аварыі краін трэба прыкласці ўсе намаганні, каб забяспечыць хутчэйшае фінансаванне французскага праекта кансервацыі чацвёртага энергаблока. Калі гэта вырашыцца, то можна будзе з палёгкай уздыхнуць. А пакуль што Чарнобыльская АЭС не дае спакою, трэба часцей і адкрыта гаварыць народу аб тым, што там сапраўды адбываецца.

Чуткі праверыў Віктар ЧАРНУШЭНКА, аглядальнік "Народнай газеты" па пытаннях ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай трагедыі.

*Да ўручэння вярыцельных грамат*

**13 студзеня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Швейцарскай Канфедэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Рыхард Гехтэр уручыў Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу вярыцельныя граматы.**



Рыхард Гехтэр нарадзіўся ў 1928 годзе ў горадзе Гален, з'яўляецца грамадзянінам Аберыта (кантон Гален). Закончыў універсітэт у Жэневе, а таксама Корнелскі універсітэт у Ітацы (штат Нью-Йорк, ЗША), дзе атрымаў ступень доктара паліталогіі. Пасля заяршэння вучобы ў 1957 годзе працаваў у федэральным дэпартаменце замежных спраў у якасці стажора спачатку ў Берне, затым у Парыжы. У 1960 годзе пераведзены ў Бон, а ў 1965-м — у Лондан, дзе ў 1966 годзе ўзначаліў аддзел упраўлення па супрацоўніцтву, развіццю і гуманітарнай дапамозе. У час работы ў Берне на кароткі прамежак часу назначаецца на работу ў пасольства Швейцарыі ў Гаазе.

Пачынаючы з 1975 года з'яўляецца намеснікам кіраўніка дыпламатычнага прадстаўніцтва Швейцарыі ў Гаазе. З 1975 года — намеснік кіраўніка дыпламатычнага прадстаўніцтва Швейцарыі ў Мексіцы. У 1978 годзе федэральны савет зацвярджае Р.Гехтэра ў якасці пасла Швейцарыі на Філіпінах, а ў 1984 годзе — у Кеніі, Бурундзі, Руандзе, Угандзе, на Сейшэльскіх астравах з рэзідэнцыяй у Найробі.

З 1989 года — пасол Швейцарыі ў Рэспубліцы Польшча з рэзідэнцыяй у Варшаве.

Белінфарм.

*Двумя абзацами*

### Профсоюзы: цели выбраны, но хотелось бы побольше гарантий...

**Состоялся пленум совета Федерации профсоюзов Беларуси.**

Его участники рассмотрели экономическую и социально-политическую ситуацию в республике, наметили программу деятельности федерации в социально-экономической сфере на ближайший период. Активисты профсоюзного движения определились также в действиях по подготовке к предстоящим весной 1994 года выборам в Верховный Совет Беларуси. Они обеспокоены изъятием из действующего законодательства важнейших социально-экономических гарантий трудящихся, ограничением возможностей профсоюзов по защите людей.

Пленум признал удовлетворительным ход выполнения коммюнике об итогах переговоров между Советом Министров Беларуси и советом ФПБ. Сейчас в профсоюзах идет усиленная подготовка к заключению с правительством генерального соглашения на текущий год.

Белинформ.



*Жыві і помні*

**Днямі Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны сабраў на сустрэчу ветэранаў, чые фотапартрэты, дакументы, успаміны, іншыя матэрыялы прадстаўлены ў музейных экспазіцыях.**

Дэвіз "Якія мы былі маладыя" найлепшым чынам адпавядаў настрою сустрэчы: расказы музейных работнікаў пра баявыя шляхі гасцей змяняліся ўспамінамі саміх ветэранаў. П.А.Ляхоўская, С.А.Кунцэвіч, З.В.Корж, П.А.Машэрава і многія іншыя — усё гэта наша жывая гісторыя...

Сяргей ГРЫЦ. Фота аўтара.





Народная газета

*Погляд народнага дэпутата*

# Беларусь, Расія, СНД

У паездках па Беларусі, спатыкаючыся з выбаршчыкамі, прыходзіцца чуць у розных месцах шмат аднатыпных пытанняў. Відаць, людзі не маюць належнай інфармацыі па асобных сферах ведаў альбо атрымліваюць скажоныя звесткі. На некаторыя пытанні паспрабую папулярна адказаць у гэтым артыкуле, выкарыстаўшы таксама меркаванні сваіх калег па БНФ (напрыклад, С.Гусака пра перамену энергетычнага забеспячэння, Л.Баршчэўскага пра інтэграцыю ў Еўропе) і выказанае раней. Думаю, аднак, што паўтарэнне не зашкодзіць, асабліва калі іншыя паўтараюць адваротнае.

Галоўным пытаннем для Беларусі пачынаючы з XIII стагоддзя з'яўляецца пытанне дачынення з Усходам. Узнікла яно са з'яўленнем конніцы манголаў пад сценамі беларускіх гарадоў, а потым, пасля адбіцця мангольскай навалы, — з утварэннем Залатой Арды, затым Маскоўскай дзяржавы і Расійскай імперыі. Беларусь, знаходзячыся на ўсходнім краі еўрапейскай цывілізацыі, вымушана вяла няспынныя абарончыя войны з агрэсіўным суседам. У той час, калі наша дзяржава распасціралася ад Балтыйскага да Чорнага мора, ствараючы ўсходні пояс Еўропы, дачыненні з Расіяй не мелі для Беларусі фатальнага выніку. Нават улічваючы адвечнае становішча паміж Сцылай і Харыбдай (Расіяй з усходу, Нямеччынай і Польшчай з захаду). Фатальны зыход пачаўся тады, калі Сцыла і Харыбда аб'ядналі свае намаганні. XVIII стагоддзе — мядовы час яднання расійска-нямецкіх дынастычных і геапалітычных інтарэсаў. У канцы стагоддзя гэта прывяло да падзелу тэрыторый паміж трыма імперыямі — расійскай, прускай і аўстрыйскай. Рэч Паспалітая разам з Вялікім княствам Літоўскім перасталі існаваць. Знік "усходні пояс Еўропы", і сябры-швагры-супернікі з усходу і захаду, задаволеныя і падазроныя, сталі адзін насупраць другога.

Дзялілі яшчэ сто гадоў. Дзялілі ў першую сусветную вайну ў Берасці і ў Рызе. Передзельвалі ў 1939-м і 1941-м. І ўвесь гэты час, нягледзячы ні на што, не знікаў нямецка-расійскі альянс, ён дасягнуў асаблівай шчыльнасці паміж фашыстамі і бальшавікамі. Яшчэ б трохі, і ўвесь свет быў бы ў руках двух параноікаў. Аднак па крымінальнай логіцы нехта з іх павінен быў першы сапсаваць "справу". Сапсаваў Адольф. І так кардынальна, што амаль 200-гадовае нямецка-расійскае супрацоўніцтва і таемнае сяброўства разляцелася ўшчэнт. У гэтым галоўная перамена ў Еўропе і галоўны палітычны вынік другой сусветнай вайны. Звер узмацнеў... і застаўся адзін. Яму супрацьстаяў цяпер увесь вольны свет. Нашаму пакаленню выпала доля прысутнічаць пры кананні гэтага апошняга крывавага звера — апошняй імперыі. Беларусь атрымала унікальны гістарычны шанц адраджэння сваёй незалежнай дзяржавы.

Палітычны вопыт гісторыі, пра які я распавёў, паказвае, што цяпер як ніколі Беларусі неабходна і выгадна наладжваць сціслыя стасункі з адроджанай хрысціянскай дэмакратычнай Германіяй. Тэарэтычныя падлікі і разважанні паказваюць таксама, што з усіх заходніх дзяржаў Германія магла б стаць найбольш зручным эканамічным партнёрам для Беларусі. Гэтае партнёрства стасуецца як узаемавыгаднае. Не заўважаць гэтага, не разумець і не рабіць насустрач такому супрацоўніцтву адпаведных крокаў — недаравальна, недальнабачна. Важным захадам было б стварэнне ўмоў для германскіх інвестыцый у развіццё сумеснай беларуска-германскай вытворчасці. Такія ўмовы, аднак, можна стварыць, правёўшы шэраг эканамічных і заканадаўчых рэформаў, сярод якіх пытанне аб прыватнай уласнасці на зямлю і прыватызацыя — галоўныя. Аднак зразумела, што ў бліжэйшы час, пакуль існуе такі анахранізм, як камуністычна-наменклатурная, да таго ж дэмаралізаваная і не валодаючая статусам легітымнай улады большасць у Вярхоўным Савеце, рэформы не адбудуцца і стасункі з Германіяй застануцца на стадыі пустапарожніх візітаў на Захад і гуманітарнай дапамогі з Захаду.

Ад унутраных рэформаў эканомікі і рэформаў улады залежыць цяпер нашая знешняя палітыка на Захадзе і асабліва на Усходзе. Нагадаю сітуацыю: беларускія пастаўкі прамысловых і харчовых тавараў у Расію складаюць больш 70 працэнтаў усяго нашага нацыянальнага экспарту, прытым многія тавары (напрыклад, мяса) мы пастаўляем выключна ў Расію (назавём гэта залежнасць 1). У той жа час такія энергарэсурсы, як нафту і газ, а таксама метал, мы атрымліваем выключна з Расіі (залежнасць 2). Знаходзячыся ў зоне распаўсюджання расійскага рубля (дзякуй Богу, яна ўжо развальваецца) і не валодаючы эмісіяй, не маючы ўласнай нацыянальнай валюты, мы поўнасцю залежым ад усіх хвароб расійскай эканомікі, ад эканамічных авантур яе ўрада, ад капрызаў і дзеянняў яе палітыкаў (залежнасць 3).

Дзяржава не можа ў такіх варунках багацець. Праца і дзейнасць людзей трацяцца надарэмна, колькі б і як бы добра ні працавалі, плён яе распыляецца па вялізных рублёвых абшарах, па замежных чорных рынках у спекулятыўных каскадах пасрэдніцкіх перапрадаўцаў і да т.п. У такіх варунках не адбываецца накаплення капіталу, прыўлашчаная ж на інфляцыі грашовая маса пераводзіцца дзеячамі "дзікунскага рынку" ў цвёрдую валюту і ўкладваецца ў замежныя банкі (у асноўным нямецкія і швейцарскія). Такім чынам, частка грошай у нашы банкі не вяртаецца. Вось вам адзін з вар"яцкіх парадоксаў беларускай эканамічнай залежнасці, інфляцыі і дурных законаў. Камерсанты Беларусі — беднай краіны з дэградуючай эканомікай — фактычна інвестуюць эканоміку багатых краін Еўропы (Германіі і іншых). З багатых жа краін на Беларусь едуць аўтамабілі з гуманітарнай дапамогай насельніцтву — лякарствы, адзенне, цукеркі, алей... Гэта пачатак афрыканізацыі,ператварэння ў краіну трэцяга свету. Чыннікі афрыканскага шляху вядомыя: каланіяльная залежнасць, адсталасць насельніцтва і неабмежаваная ўлада прадажнай бюракратыі, зросшайся з ценявым бізнесам.

Нагадаю яшчэ пра характар нашай вытворчасці, зарыентаванай на былы СССР і на прывазную сыравіну, пра мясны ўхіл сельскай гаспадаркі з той жа аднабаковай арыентацыяй, каб стала зразумелым, якія жыццёва неабходныя захады ва ўнутраным развіцці і ў знешняй палітыцы павінна б была ажыццявіць Беларусь.

Погляды БНФ на перспектыўнае развіццё дзяржавы і незалежнасці шмат у чым пераклікаюцца з палітыкай Народнага фронту Эстоніі і створанага ім урада. Не выпадкова аб становішчы спраў у Эстоніі поўнае маўчанне ў беларускім урадава-манапольным друку. Поспехі там відавочныя. За два гады эстонцы зрабілі тое, што на Беларусі трэці год убівае ў наменклатурна-савецкія галовы Беларускі народны фронт. Падрыхтавана фінансава-крэдытная сістэма і ўведзена эстонская крона. Прытым хутка пераарыентавана сістэма эканамічных прыярытэтаў, перабудаваны балансы паставак і дачыненняў па экспарту-імпарту. Калі раней гэты баланс Эстоніі з Расіяй складаў больш 30 працэнтаў, то на канец 1992 — менш 15. Затое з Фінляндыяй узрос да 60 працэнтаў, з Германіяй — больш 12, з Швецыяй — каля 9 і г.д. Эстонія "прывязалася" да нямецкай маркі. Пасля ўвядзення кроны летам 1992 года інфляцыя эстонскай валюты кожны месяц зніжалася напалавіну. Цяпер крона ўваходзіць у трыццатку стабільна канвертуемых валют свету, перагнаўшы ў гэтым карэйскую і філіпінскую. Японія прыняла рашэнне ўкладваць інвестыцыі ў эстонскую эканоміку, убачыўшы гарантыі. Па ўзроўню сярэдняй зарплаты (на восень 1992 года) і па ўзроўню жыцця (калі лічыць па спажывецкім кошыку) Эстонія ўжо ў 3,5 раза пераганяе Беларусь, дзе жыццёвы ўзровень прадаўжае апускацца, наменклатура і рознае жулллё працягвае красці, а большасць абалванянага прапагандай насельніцтва прадаўжае маўчаць, практыкуючыся ў нянавісці да саміх сябе, сваёй дзяржавы, незалежнасці і нават (сорамна казаць, сусветны феномен!) да сваёй мовы. Замест імкнення да адраджэння, да свабоды, да паправы — тэндэнцыі да самаедства. Зрэшты, "феномен" гэты вядомы — спадчына каланіяльнага мыслення і адсутнасць нацыянальнай свядомасці, гэта значыць асэнсавання сваёй свабоднай народнай індывідуальнасці ў кантэксце развіцця чалавечай культуры.

Праўда, Эстонія маленькая краіна з культурным, салідарным і гераічным народам. Працэсы эканамічнага абнаўлення ў малых краінах па зразумелых прычынах ідуць значна хутчэй. Каб выйсці, напрыклад, на "зыходныя рубяжы" такой краіны, як Фінляндыя, Беларусі пры нармальным ходзе спраў спатрэбіцца не менш 5—6 гадоў, агромністай Расіі — каля 30.

Справа, аднак, не толькі ў аб'ектыўнай запаволенасці працэсаў. Справа ў праблематычнасці дэмакратыі ў Расіі. Перспектывы дэмакратыі на ўсходзе Еўропы канчаюцца там, дзе знікае павага і самакаштоўнасць чалавечай асобы; там, дзе гістарычна спынілася распаўсюджанне "магдэбургскіх" гарадоў, гэта значыць па ўсходняй мяжы Беларусі і Украіны. Уся гісторыя Расіі была вельмі жорсткай, тыранічнай, крывавай і таталітарнай. У ёй адсутнічаў нават мінімальны вопыт дэмакратыі, нават на ўзроўні ідэй (не будзем блытаць антытыранічныя, антыталітарныя памкненні з дэмакратычным усведамленнем). Ідэя, што аб'ядноўвала ўсё — чалавека, рэлігію, дзяржаву, — гэта ўсведамленне імперыі, экстэнсіўная псіхалогія, скіраваная на знешняе развіццё дзяржаўнай сістэмы, дзе чалавек заставаўся толькі функцыяй гэтай сістэмы. У такіх напаўазіяцкіх умовах фарміравалася своеасаблівая імперская ментальнасць расійскага жыхара.

Ліберальныя забурэнні ў Расіі і крытыка рэжыму зыходзілі амаль выключна ад людзей заходняй арыентацыі ("западников"), знаёмых з жыццём і каштоўнасцямі Еўропы. Гэтая лінія, закладзеная ў Расіі спачатку беларусамі, а потым немцамі і рэформамі цара Пятра І, датрывала да сённяшняга дня. Ліберальныя, свабодалюбныя выступленні "западников" заўсёды прыўносілі нестабільнасць, дыскамфорт у расійскае грамадства. "Западники" заўсёды цярпелі паражэнне, і пасля гэтага расійскае грамадства зноў дасягала рэжымнай стабільнасці. Так было ў 1812, у 1825, у 1831, у 1864, у 1906, у 1917, у 1921 гадах. Падобнае адбываецца ў Расіі і цяпер. Таталітарызм — найбольш стабільны стан імперыі.

Імперская ментальнасць, імперыялістычная палітыка і дэмакратыя — несумяшчальныя. І не мае значэння, як і што пры гэтым гаворыцца расійскімі палітыкамі. Дэмакратыя для Расіі — гэта хутчэй "прывід". У Расіі адбываецца чарговая змена рэжымаў, і задачы дзяржаў, якія вызваліліся з-пад акупацыі, не расціць ілюзій і не спазніцца.

Не мець ілюзій, што ўсё ўладкуецца само сабой ці нехта "нам" дапаможа. Не спазніцца стаць на ногі, умацаваць дзяржаву, пераарыентаваць і рэфармаваць эканоміку, падняць культуру, умацаваць мараль.

Не спазніцца навязаць добрыя двухбаковыя стасункі з суседзямі, і перш за ўсё раўнапраўныя, цывілізаваныя дачыненні з Расіяй праз цывілізаваную мяжу. Дарэчы, вось тут якраз і пачынаецца найбольш злосны і фальшывы лямант каланіяльных мастадонтаў, шавіністаў і проста нядобразычліўцаў, якім хацелася б захаваць нераўнапраўнасць Беларусі, яе штучную залежнасць ад усходняга суседа. Пачынаюць зноў гучэць глупствы пра "историческую общность", заклінанні, што "надо быть вместе", пра дружбу, "скрепленную кровью" (вось ужо сапраўды крыві нам пусцілі шмат таварышы-дабрадзеі), пра тое, што Еўропа аб'ядноўваецца, а "мы" раз'ядноўваемся і г.д. — увесь імперскі набор.

Што датычыць "общности", "дружбы", "старшего брата" і іншай каланіяльнай тэрміналогіі, то ўсе гэтыя фальшывыя сантыменты стануць хутка знікаць, як толькі пачнецца пераход у гандлі і эканамічных дачыненнях на сусветныя цэны. А гэта наканавана. Тады мы ўбачым, як раптоўна паразумнеюць нават некаторыя зацятыя каланіяльныя наменклатуршчыкі і імгненна пазбавяцца ад нястрымнага сентыменталізму. Як кажуць, гром не грымне — мужык не перахрысціцца.

Спынюся, аднак, на іншым прапагандысцкім шулерстве — на савецкім "раз'яднанні" і еўрапейскай "інтэграцыі". Тут трэба ведаць, што станоўчы змест можна атрымаць, калі інтэгруюцца і аб'ядноўваюць інтарэсы багатыя дзяржавы. Жабракі, як правіла, не аб'ядноўваюцца, з аб'яднання бедных нічога добрага не вынікае. Хіба што склокі, перадзелы, узаемныя папрокі ды імкненне "выехаць" на іншых. Бо няма дзеля чаго бедным аб'ядноўвацца — усім не хапае. Адпаведна і тэндэнцыі да такога аб'яднання ўзаемна не ўзнікаюць, а калі з'яўляюцца, то, як правіла, у аднабаковым парадку з-за палітычных ці іншых якіх рацыянальных мэт.

Еўропа пачала інтэгравацца тады, калі краіны ў выніку прадуманага развіцця дасягнулі такога ўзроўню багацця, што ў іх з'явіўся лішак тавараў і прадуктаў. Неразумна было, скажам, выліваць малако ў мора, як на тое вымушала эканамічная сітуацыя, ці пастаянна перажываць крызісы перавытворчасці, беспрацоўе і г.д. Можна было пабудаваць больш разумнае ўзаемадзеянне паміж дзяржавамі, скаардынаваць інтарэсы па выкарыстанню багацця, узгадніць працу людзей і накіраваць яе вынікі на агульную грамадскую карысць. Так натуральна развіваліся ідэі і практыка еўрапейскай інтэграцыі і дэмакратыі.

У былым Савецкім Саюзе адбываліся і адбываюцца працэсы зусім іншай аб'ектыўнай уласцівасці. Гэта адваротныя працэсы дэзінтэграцыі катастрафічна бяднеючага грамадства, якія пачаліся з дэградацыі і тупіковага распаду савецкай адміністрацыйна-партыйнай імперскай эканомікі. Суверэнізацыя і лакалізацыя высілкаў па нацыянальна-дзяржаўнай прыкмеце і нават па эканамічна-адміністрацыйных раёнах (Дон, Сібір, Далёкі Усход, Санкт-Пецярбург, Крым і да т.п.) ёсць аб'ектыўны рух самавыратавання і выкліканы ён перш за ўсё пачаткам эканамічнай катастрофы. Спачатку прычына, затым ідэі, потым працэс. Эканамічная катастрофа ў грамадстве спараджае лакалізацыю эканамічных тэрыторый з мэтай самазахавання грамадства (уключэнне мясцовых інтарэсаў, паскоранага абарачэння гаспадарчых і эканамічных жыццёва важных цыклаў і да т.п.). Паколькі катастрофа тупіковай эканомікі разгортвалася на фоне крызісу тупіковай ідэалогіі ў тупіковай шматнацыянальнай імперыі, пачаўся ўсеагульны распад сістэмы, які яшчэ не закончаны па сённяшні дзень. Гэты распад, дэзінтэграцыя прымусовага саюзу ёсць працэс вызвалення з-пад мёртвага цела, працэс жыццёва важны, станоўчы і стваральны.

Плакальшчыкі па "недзялімай" могуць, вядома, лямантаваць, клікаць да расправы і выклікаць духаў. Іх зразумець можна. Чалавек жа, які ў такой сітуацыі пачынае прапаноўваць зноў "объединиться", нагадвае дзівака, што, трапіўшы на пажар, запрашае пайсці купацца, бо горача. (У Еўропе ж купаюцца.) Не да купання, спадарове, калі родная хата гарыць. Нельга ж так не разбірацца.

Другая важнейшая і абавязковая ўмова інтэграцыі, дакладней, умова жыццёвасці інтэграванай сістэмы дзяржаў, ёсць раўнавага сіл, збалансаванасць інтарэсаў і супрацьвагаў сістэмы. Супрацьвагі павінны ўраўнаважвацца. У Еўрапейскім эканамічным супольніцтве мы якраз і бачым існаванне ўнутранай раўнавагі сіл. Францыя, Германія, Італія, Іспанія, Вялікабрытанія і па тэрыторыі, і па колькасці насельніцтва, і па эканамічным, навуковым, культурным патэнцыяле — блізкія. Яны здольныя ўраўнаважваць адна другую, ствараць раўнавагу сіл, што дазваляе раўнапраўна існаваць у такой збалансаванай сістэме іншым малым дзяржавам. Сістэма фармальна і структурна жыццеўстойлівая. (Заўважце, як чуйна зрэагавала яна на аб'яднанне і ўзбуйненне Германіі — Маастрыхскія пагадненні, рэферэндум у Францыі, шэраг палітычных "прыцірак", супрацьстаўленне Колю і Мітэрану і да т.п.).

Цяпер паглядзім на Усход, на СНД. Велізарнай па тэрыторыі, насельніцтву, эканамічнаму патэнцыялу і ваеннай магутнасці Расіі няма тут супрацьвагі. Якая б фармальная сістэма дзяржаў не ўтваралася разам з Расіяй у межах былой Расійскай і савецкай імперыі — ці то саюз, ці то канфедэрацыя, ці то садружнасць, ці то якая-небудзь асацыяцыя, ці іншая супольнасць, яна заўсёды будзе асуджана на імперскую перспектыву, на залежнасць усіх ад Расіі, на паступовую страту астатнімі сваіх правоў і незалежнасці, на палітычны ўціск і навязванне расійскіх інтарэсаў, "языка", агульнага войска і г.д. Гэткія працэсы адбываліся б нават тады, калі б Расія была нармальнай краінай без імперскай свядомасці, ідэалогіі і палітыкі. Само ўзаемадзеянне надзвычай нераўназначных па велічыні мас Расіі і іншых дзяржаў прыводзіла б да залежнасці ад Расіі і нераўнапраўных вынікаў. Калі ж усё гэта памножыць на расійскі экспансіянізм і яе традыцыйную палітыку — сцэнарый вядомы.

Пацешна чытаць, напрыклад, у праекце статута СНД, што ў дачыненні да дзяржавы, якая парушыць статут, "могут применяться меры". Ну вось і парушыць Расія статут, сістэматычна і калі захоча (гэтак жа, як парушае пагадненні па СНД). Якія "меры" супраць яе "прыменяць"? І хто?

Прыміце "меры", спадары-засядацелі, цяпер — вярніце сто мільярдаў рублёў Беларусі, якія Расія задоўжыла Беларусі за яе прадукцыю. Што ж не прымаеце? Вось такая служба, то бо дружба, "скрепленная кровью".

Сумесна з Расіяй у межах былога СССР не можа стабільна існаваць ніякая аб'яднаўчая сістэма дзяржаў. Гэта аб'ектыўная, навуковая і гістарычная рэальнасць. Пара б ужо гэта зразумець, пазбавіцца ад ілюзій, чужых пражэктаў і марнавання часу. Лепш пашукаць выхад з пагрозлівага становішча.

Такі выхад БНФ прапаноўвае даўно. Неабходна аднавіць раўнавагу на ўсходзе Еўропы, разбураную 200 гадоў назад. Размова ідзе пра Балтыйска-Чарнаморскую садружнасць (асацыяцыю) дзяржаў (Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь, Украіна, Малдова). Гэта шлях да стабільнасці і раўнапраўнага супрацоўніцтва, гарантыя суверэнітэту. Краіны БЧС, абапіраючыся на Еўропу, змаглі б стаць тым нестаючым ураўнаважваючым чыннікам, які б стымуляваў узаемавыгаднае развіццё ў тым ліку і Расіі, вечна пакутуючай ад імперскай хваробы. Ідэя БЧС, распрацаваная беларускімі палітыкамі і выказаная на міжнародным з'ездзе ў Лазане яшчэ ў 1916 годзе — выдатная, абгрунтаваная з усіх бакоў, выкліканая патрэбамі народаў і дзяржаў гэтай часткі Еўропы.

Аднак мушу заўважыць, што ідэя БЧС гэта не ёсць ідэя інтэграцыі. Інтэграцыя цяпер нерэальная і немагчымая па прычынах, якія ўжо адзначаны. Тут важная ўзаемная каардынацыя па агульных пытаннях дачыненняў з Усходам. Гэта тая ж праблема раўнавагі.

Другая галіна, дзе магчыма аб'яднанне высілкаў — экалогія і забеспячэнне энергетычнымі рэсурсамі. Для ўсіх балта-чарнаморскіх краін было б жыццёва выгадна, напрыклад, стварыць вось энергетычнага забеспячэння "поўдзень—поўнач". (Акрамя існуючай "усход—захад".) Ужо робяцца пэўныя захады краінамі Балтыі (газ з Нарвегіі) і Украінай (блізкаўсходняя нафта). Павінна, аднак, быць сістэма, якую можна ўладкаваць, злучыўшы ўжо існуючыя ніткі нафта- і газаправодаў на Беларусі і Украіне, працягнуўшы іх да балтыйскіх і чарнаморскіх тэрміналаў і да т.п. Усё гэта патрабуе агульных клопатаў, інвестыцый і сумесных рашэнняў.

Вялікадзяржаўныя памкненні расійскіх улад у апошні час пачалі насіць гратэскава-фарсавы характар (паўтарэнне збанкрутаваных ідэй гісторыі — заўсёды фарс). Гэтак, папрацаваўшы кулакамі ў Вярхоўным Савеце, расійскія дэпутаты звярнуліся з прапановай да ўсіх уступіць з Расіяй у канфедэрацыю. (Чаго не прыдумаеш "после драки"!) Расійскія генералы складаюць планы ваеннага саюзу з Беларуссю і да т.п. Але самым цікавым сачыненнем у гэтай галіне з'яўляецца праект статута СНД. У аснову гэтага твора пакладзены апошні праект гарбачоўскага "саюзнага дагавора". Прапанавана фактычна структура бюракратычнай дзяржавы, цалкам адарваная ад рэальнага жыцця. Праектуецца 18 кіруючых і каардынуючых арганізацый. Сярод іх такія "перлы", як "Савет Міністраў замежных спраў", "Савет Міністраў абароны" (павінен займацца "ваеннай палітыкай" і "ваенным будаўніцтвам" (!?), "Галоўнае камандаванне ўзброеных сіл" (?!), "Савет камандуючых памежнымі войскамі", "Камандаванне памежнымі войскамі" (чыіх межаў?). Больш таго, "Савет кіраўнікоў дзяржаў" і "Савет кіраўнікоў урадаў" могуць ствараць "рабочыя і дапаможныя органы на часовай і пастаяннай аснове". Прадугледжаны "органы галіновага супрацоўніцтва" (саветы, камітэты), у склад якіх "уваходзяць кіраўнікі адпаведных органаў выканаўчай улады".

Як бачым, у праекце закладзеныя шырачэзныя магчымасці для структуратворчасці і бюракратычнага самаразвіцця. Завядзіце такую чыноўніцкую машыну, і праз год ужо з'явяцца сотні "органаў". Але навошта яны? Каму патрэбныя? І хто павінен будзе ўтрымліваць гэтую запраектаваную бюракратычную "гамэрню"? Прытым большая частка яе размесціцца ў Мінску. У артыкуле 41 сказана:"Расходы на финансирование деятельности органов Содружества распределяются на основе долевого участия государств-членов". Віншую вас, шаноўныя грамадзяне і падаткаплацельшчыкі, з выдатнай перспектывай!

Паглядзім жа цяпер, на якіх прынцыпах грунтуецца прапанаваная структура СНД. Ну, вядома ж, на прынцыпах "объединения". Дзеля гэтага спатрэбілася нават фальсіфікацыя з першага ж радка, дзе напісана: "Государства, добровольно объединившиеся в Содружество Независимых Государств". Але не было такога, спадары фальсіфікатары. Дзяржавы заключылі пагадненне аб СНД і ўсяго. Далей Садружнасці запраектавана ўзрастаць на "исторической общности своих народов", на "общем экономическом пространстве" і "межгосударственной интеграции", на "коллективной безопасности и военно-политическом сотрудничестве" (нават гэтак), на "совместном использовании вооруженных сил" і "строительстве вооруженных сил". (Гэта значыць, пашлюць вас зноў, хлопцы-беларусы, у чужую вайну, у Азербайджан і Таджыкістан за расійскія "интернациональные" інтарэсы. "Хватит суверенитета, кончай сачковать".) Садружнасць будзе грунтавацца таксама на аснове "внешних границ"(?), на каардынацыі "военно-экономической деятельности" і нават на "формировании общего информационного пространства". Ну і, вядома ж, як запісана ў артыкуле 38, "рабочим языком Содружества является русский язык". (А як жа — нельзя без языка.)

Шчыра кажучы, калі цяпер прыходзіцца чытаць гэткае бессаромнае, старадумна-імперскае, салдафонскае "праектанцтва", знікае ўсялякая павага да такіх палітыкаў і ўсіх "чэсных бюракратаў". Гэтыя людзі нічога не хочуць разумець і нічому не вучацца. Такое сачыненне — зняважа дзяржавам. Не выпадкова, што ні Украіна, ні Малдова, ні нават Туркменістан і Таджыкістан не ўзгаднілі праект. З еўрапейскіх краін узгадніла толькі Беларусь. (Ну, нашы падпішуць што хочаш. Каб толькі лоб не разбілі перад Масквой.)

Дэпутацкая апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце выступіла з рэзкай крытыкай праекта статута СНД. Безумоўна, Беларусі нельга падпісваць такі статут. Не трэба ўвогуле займацца самаашуканствам. СНД практычна ўжо не існуе. Яна ціха канае і хутка памрэ зусім. Трэба ўмацоўваць сваю дзяржаву і развіваць двухбаковыя сувязі.

Быў прапанаваны таксама і больш лагодны варыянт. Падпісаць пасля ўнясення неабходных паправак прэамбулу статута, раздзел 1 (Мэты і прынцыпы), раздзел 2 (Членства) і раздзел 5 (Супрацоўніцтва ў эканамічнай, сацыяльнай і прававой галінах). Астатнія раздзелы не падпісваць. Фактычна гаворка ідзе толькі пра асацыятыўнае членства Беларусі ў СНД.

Як будуць развівацца дачыненні з прыняццем статута СНД, убачым у другой палове студзеня. Мне здаецца, што шмат хто ўжо пазбаўляецца ад ілюзій пра СНД і расійскую гегемонію і звяртае свой позірк на неабходнасць добрай гаспадарскай адбудовы нашай незалежнай дзяржавы дзеля карысці і будучыні ўсіх людзей Беларусі.

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**народны дэпутат Беларусі.**

*Ракурс*



## З такім караваем — свята ўдвайне!

Фантазія, умелыя рукі і жаданне дарыць людзям радасць кіруюць каравайшчыцай з горада Стоўбцы Валянцінай Канстанцінаўнай Уласік. Святы — Новы год, вяселлі, дні нараджэнняў — не зніклі з нашага жыцця, таму работы ў Валянціны Канстанцінаўны заўсёды шмат. Ідуць да яе людзі, шануючы майстэрства і шчырасць жанчыны. А яна сакрэтаў не хавае, дзеліцца з усімі.

**Фота Сяргея БРУШКО.**

*Если вам интересно...*

## В Америке никому зря не платят

*Я понимаю, что уровень заработной платы у нас и в Соединенных Штатах Америки еще ни о чем не говорит. Разные цены, разные налоги, разный образ жизни. Говорят, у них на одно жилье может уходить половина заработка...*

*И все же хочу знать, как у них оценивается труд людей тех или иных профессий. Пусть "Народная газета" напечатает хотя бы некоторые сравнительные данные.*

**Иван КОЛЕСНИКОВИЧ.**

*Пинский район.*

Что ж, Иван, это можно сделать. Вместе с тобой мы подчеркиваем, что уровень зарплаты — это одно, а уровень жизни — другое. Хотя, чего греха таить, у американцев он, конечно же, выше. Но это уже иная тема, ты же просишь дать сравнительные данные по ряду профессий, что мы и делаем.

| Профессия | Недельная зарплата в США (в долларах) |
|---|---|
| 1.Юрист | 1008 |
| 2. Врач | 984 |
| 3. Инженер | 836 |
| 4. Преподаватель вуза | 756 |
| 5. Главбух | 743 |
| 6. Экономист | 732 |
| 7. Химик | 687 |
| 8. Программист ЭВМ | 662 |
| 9. Медсестра | 634 |
| 10. Архитектор | 623 |
| 11. Учитель | 600 |
| 12. Журналист | 537 |
| 13. Таксист | 339 |
| 14. Швея | 326 |
| 15. Уборщица | 292 |
| 16. Оператор в банке | 281 |
| 17. Парикмахер | 263 |
| 18. Бармен | 249 |
| 19. Продавец | 246 |
| 20. Рабочий фермы | 239 |
| 21. Кассир | 218 |
| 22. Официант | 218 |

*Репортер узнал*

## Учитесь!

**Систему социальной поддержки учительства независимо от правительственных решений разработал Жлобинский горисполком.**

Из местного бюджета учителям идет частичная компенсация за питание. Только 50 процентов платят педагоги за содержание своих малышей в детском саду. В половину стоимости обходится молодым учителям проживание в общежитии. Дополнительно к отпуску все педагоги получат целый оклад. На четверть увеличена и зарплата техническим работникам системы просвещения.

Похоже, в Жлобине накрепко помнят истину: после хлеба самое важное — школа.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

## Упадет ли волос с быткомбинатов?

**Вместе с ценами на сервис растет интерес граждан к "натуральному хозяйству".**

Большинству людей стало сподручнее самим стирать, выводить пятна, ремонтировать утюги и даже фотографироваться. Идя навстречу массам, в Витебске нынче открыли месячные курсы домашних парикмахеров. Наряду с азами профессии выпускникам гарантируется сохранение солидной части семейного бюджета.

Осталось приобрести навыки сапожников и портных, чтобы государственной службе быта пришел конец?

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

## Минус десять процентов

**По уточненным данным Министерства обороны Беларуси, число военнослужащих, не принявших присягу 31 декабря 1992 года, составляет около 10 процентов от их общего количества.**

Среди причин называются предполагаемое убытие для прохождения дальнейшей воинской службы в другие республики СНГ; плановое увольнение в запас; пребывание в день присяги в отпуске или на лечении. В Вооруженных Силах Республики Беларусь присягу принимали, кроме офицеров и генералитета, и военнослужащие первого и четвертого периодов срочной службы.

Солдаты второго и третьего периодов, как известно, приняли присягу на верность белорусскому народу еще в июне—сентябре 1992 года.

**БелаПАН.**

## Стало не до секса?

**Отделом криминологии республиканского Института проблем криминалистики, криминологии и судебной экспертизы проведены любопытные исследования.**

В частности, констатируется, что, несмотря на нынешнее обилие эротической кинопродукции и литературы, на которую так ополчились строгие государственные чиновники, количество сексуальных преступлений в последние два года значительно снизилось.

**Ирина ЛЕВШИНА,**
**БелаПАН.**

